# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 35 (600) ГОД XII 27 ЖНІЎНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.





Алесь Ставер

## СЛЕД ВАЙНЫ

Наводдаль ад хаты, пад ліпай высокай,
Дзе птушкі шчабечуць уранку,
Панура, самотна стаіць адзінока,
Як выспа, старая зямлянка.

Падлога струхлела, аб'ехалі сцены, —
Мышам больш няма чаго грызці.
І веє адтуль тнілатою і тленам...
А людзі жылі ж там калісьці...

Зірнеш на пустую зямлянку парою, —
Мінулае ўспомніш між волі...
Зямля наша, вечна мы будзем з табою!
З зямлянкай — не хочам ніколі.

★ ★ ★

Я гавару з дрымучым, цёмным лесам.
Я гавару, каб слухалі палі:
І ў Беларусі шмат было Дантэсаў,
І ў Беларусі Пушкіны былі.

Хто пахадзіў з Тарасам па Парнасе?
Які быў той нязнаны пілігрым?
А што б мог даць, каб не сканаў заўчасна
Загадкавы бунтар Паўлюк Багрым?

О колькі іх загінула ў народзе!..
Па таленту не горай Скарыны...
Віной мы кажам — жорсткія стагоддзі...
А хіба ж іншай не было віны?

А то ж касіла яркія асобы
Бязлітасная нейчая рука.
Пасля тайком чыноўнік тупалобы
Знішчаў ушчэнт іх творы да радка.

І прывід тых, былых, злачасных ценяў
Нам раніць сэрца, быццам бы нажом.
Ах, як падчас мы харастово не цэнім...
Паэтаў мы сваіх не беражом!

Парой іх лёс скрыпіць, як на завесах.
Трывожыць гоман з векавой далі:
І ў Беларусі шмат было Дантэсаў,
І ў Беларусі Пушкіны былі.

## АПОШНЯЕ ЖАДАННЕ

Калі хаваць мяне павезяцё,
Прашу: іграйце паланез Агінскага.
Хавайце там, дзе пачынаў жыццё, —
Далей ад тлуму і ад шуму мінскага.

Люблю я Мінск. Ды ўсё-ткі на спачын
Мяне вязіце да лясоў бягомльскіх,
Я іх адданы, працавіты сын, —
І спачываць хачу пад вечны гоман іх.

Хавайце за сялом, каля шашы.
Гару насыпце ля мяне высокую.
А каб было не сумна мне ў цішы, —
Сасонку пасадзіце адзінокую.

Каб у цяньку маглі адпачываць
Пад ёй на лаўцы земляні прахожыя,
Каб у святочны дзень ішлі гуляць
Туды дзяўчаты і хлапцы прыгожыя.

І каб героі маіх кніг — дзядзькі —
Прыйшлі к мне і з чаркай, і з закускаю,
І каб я слухаў праз усе вякі
Іх песні і гаворку беларускую.





## ДЗІВОСНАЯ ХАТА ЯНА ШАСТАКА

Мы не ехалі спецыяльна да Яна Шастака. Прабываючы на адпачынку ў Аўгустове, слынным са сваіх чароўных азёр, мы скваліва скарысталі з яшчэ адной, дадатковай атракцыі і наведалі дом-музей Яна Шастака.

Тое, што мы там убачылі, заваражыла нас. Мноства фігур, кампазіцый, прадметаў хатняга ўжытку (кінкеты, свечачнікі, кветнікі і г.д.), — і ўсё гэта было вычаравана з звычайных галінак, карэнняў і карчоў, якія праляжалі ў Аўгустоўскіх азёрах сотні, а мо і тысячы год.

Не кожны патрапіць так умела падглядзець прыроду, мець такую буйную фантазію і светаўспрыйманне. Ян Шастак мёртвае дрэва ўмее ажывіць, ператварыць сплецены корань або кавалак карча ў сапраўдны твор пластычнага мастацтва. Будзе гэта «Дракон» ці «Балетніца», «Ямшчык» ці «Героі гета», «Спеў ветра» ці «Мост дружбы», «Воклік індзейца», ці «Сарамлівая», «Партызаны» ці «Бабка з хворастам» — усе гэтыя постаці і кампазіцыі маюць чуллівы змест, кранаюць за душу, яны як быццам бы затрымаліся толькі на момант, каб паказаць нам харастово прыроды, ці высакародныя чыны або цярпенні людзей.

Дык не дзіўна таму, што хто раз трапіць у хату Шастака і зразумее яго творы — дары прыроды, падпраўленыя ўмелай рукой майстра, хто зразумее аўтара гэтых твораў — чалавека, які ўслед за старажытнымі мысліцелямі паўтарае, што найбольшым артыстам з'яўляецца сама натура, той не праміне ніводнай аказіі, каб зноў пабываць у своеасаблівай хаце над ракой Нэтай.

Ды і ўзнікла гэтая хатка своеасабліва. Даўно, даўно, калі Ян Шастак быў яшчэ малым хлопцам, на тым месцы, дзе стаіць цяпер хата асеў на муле плот. Малы Ясь дапамагаў бацьку насіць жвір на яго. Нанасілі многа-многа і паставілі хату. І стаіць яна да гэтага часу, а спакою яе пільна сцерагуць індзейскія тэтэмы, зробленыя рукою майстра.

Мілы і дабрадушны чалавек — гаспадар гэтай хаты, ён гадзінамі можа расказваць аб сваіх творах, жыве імі, дыхае. Пра трудные мінулае і нялёгкі шлях да сённяшняга поспеху ён аднак расказвае неахвотна.

Пачалося ўсё яшчэ ў гады вайны. Быў разам з ім у партызанскім атрадзе савецкі партызан, па нацыянальнасці фін. У вольныя ад баёў хвіліны ён часта рабіў з карэнняў і галінак розныя фігуркі і ўпрыгажэнні на сцены партызанскіх зямлянак, так, як гэта рабілі ў роднай фінскай вёсцы.

Усе партызаны прыглядаліся з вялікім зацікаўленнем і самі прабавалі зрабіць гэтак, але ні ў кога не выходзіла. Прабаваў і Ян Шастак.

Скончылася вайна, трэба было аднаўляць разбуранае немцамі жыццё. Ян Шастак, па прафесіі сталяр-інкрустатар, перайшоў на адміністрацыйную працу (быў нейкі час нават старшынёй МРН у Аўгустове). Не было калі паўтарыць пробу выразання фігурак у новых, мірных умовах.

І вось аднойчы (было гэта ў 1959 годзе), ідучы ўскраінай лесу, Ян Шастак нечакана спыніў позірк на сплеценай ліпавай галінцы, якая так жыва ўяўляла дыскабола, што нельга было яе не выразаць. І так пайшло. Закінуў сталярскую справу, перастаў працаваць на адміністрацыйных пасадах і ў цяжкіх матэрыяльных умовах, не прызнаваны як мастак, цалкам аддаўся сваім фігуркам, карэнням, разьбе. Былі моманты, калі пачынаў хістацца, хацеў усё кінуць. У Ваяводскім камітэце партыі ў Беластоку дадалі веры ў сябе, падтрымалі. Зацікавілася кафедра этнаграфіі ўніверсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані, а асабліва — кіраўнік кафедры праф. Юзэф Буршта, цеснае супрацоўніцтва з народным мастаком наладжваюць кафедры этнаграфіі ў Кракаўскім, Вроцлаўскім і Лодзінскім універсітэтах.

Творы Шастака пачынаюць расхватваць. Наладжваюцца выстаўкі яго прац не толькі ў Польшчы, але і за граніцай (у ЗША, ФРГ, Фінляндыі, Галандыі, СССР, Швецыі і інш.). Разам з выстаўкамі падарожнічае не раз і сам аўтар прац. Прабываючы ў Фінляндыі па запрашэнні студэнтаў, ён прыязджае ў Карэла-Фінскую рэспубліку Савецкага Саюза і сустракаецца там са сваім даўнім настаўнікам — фінам яшчэ з партызанскіх часоў. Той падказвае яшчэ адну думку: калі будуюць цяпер малыя кватэры, то чаму не пачаць дэкарыраваць столі? — і вось Шастак ужо мае новыя планы на будучыню.

Сыплюцца заказы, мноства-мноства лістоў. Свае тут у Польшчы купляюць у асноўным прадметы хатняга ўжытку, замежныя пасольствы — больш кампазіцыі, заакіянскія госці — больш плоскія фігуры («каб улезлі ў чамадан»), а негры — маскі (каб паказаць там у сябе ў Афрыцы, як трэба рабіць такія). Нядаўна з майстэрні Шастака вывезлі цэлую машыну аздобных жырандоляў для эксклюзіўнай гасцініцы ў Італіі. Сталымі кліентамі з'яўляецца ўся сям'я Матысякаў.

Аднак не прага нажывы штурхае гэтага чалавека да мастацтва. Ён любіць

(Працяг на стар. 4)





Задні купал падбялянскай царквы


Бакавое акенца.

**Царква ў Падбелі, як і большасць цэркваў на Беласточчыне, пабудавана адносна нядаўна — у 1876 годзе. З мастацкага боку аднак трэба яе залічыць да найпрыгажэйшых аб'ектаў драўлянага будаўніцтва ў нашым ваяводстве. У час яе пабудовы беларуская вёска не ведала яшчэ архітэктурнай разьбы. Не было яшчэ шчытоў з узорыстай шалёўкай, рознаформенных вуглоў, карнізаў і ліштваў. Усё гэта выступае аднак параўнальна рана ў культавым будаўніцтве. Праўдападобна адсюль чэрпалі пазней узоры сяляне і тут вучыліся свайго майстэрства беларускія цесляры. Змяшчаем некалькі здымкаў, якія ілюструюць архітэктуру падбялянскай царквы.**

Тэкст і фота: **Ул. Паўлючук**


Уваход у царкву


Бакавая сцяна царквы


Падбялянская царква.


На ўвагу заслугоўвае стары крыж ля царкоўнай агароджы ў Падбелі — прыклад кавальскага майстэрства. Крыж выкананы ў форме круга, выяўляе яшчэ дахрысціянскую сімволіку сонца.

ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД

# Калдычэва

(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)

Ды ці ў сілах чалавек апісаць усе нечалавечыя жахі, якія давялося бачыць і пераносіць у гэтым апраметным калдычэўскім пекле! Ці ёсць на свеце такія фарбы, каб намаляваць жахлівыя карціны Калдычэўскай трагедыі!

Па некалькі разоў на дзень нас выганялі на лінейку. Юзэф Прончак, гэты варвар-садыст, цешыўся, збіваючы нагайкай няшчасных вязняў. Ён ганяў па лагерным панадворку пакутнікаў, прымушаў то падаць ніцьма ўсіх, то падымацца, то зноў падаць і падымацца і г.д. Хто знемагаў, таго ён збіваў да паўсмерці.

Аднойчы пад вечар у другой палове чэрвеня нас выгналі з бараку на лінейку.

Юзэф Прончак, памахваючы нагайкай, звярнуўся да 72-гадовай сівой бабулькі Плюцінскай:

— Ідзі, глянь! Там у кустах ляжыць дохлы сабака, мо пазнаеш!

У трупе бабулька пазнала свайго сына.

За калючым дротам каля камендатуры лагеру быў сад і агарод. Там квітнелі краскі, раслі агуркі, памідоры, клубніка і іншая гародніна. Адзін вязень дарэмна спрабаваў праз дрот дастаць зялёны памідор. Яго за гэта расстралялі.

Любіў забаўляцца камендант Калько. Ён прыходзіў уночы ў барак, крыкам будзіў вязняў, загадваў кідаць у кучу ўсе чаравікі, боты, а пасля неадкладна адшукваць свой абутак і абувацца. Хто не паспяваў, таго збіваў палкай. Або загадваў вязням класціся на земляную падлогу бараку тварамі ўгору, а пасля хадзіў па целах, як па падлозе і таптаў нагамі. Ні адзін выклік на расстрэл не абыходзіўся без Калько. Гэта ён выклікаў і ўдзень і ўночы няшчасныя ахвяры на смерць.

І ўдзень і ўночы ганялі вязняў на катаржныя работы. Кожны мужчына быў абавязаны вынесці з балота штодзённа 1550 плітаў мокрага торфу, а кожная жанчына — 1150 плітаў торфу. Нікога не цікавіла здаровы ты ці хворы. Галодныя, няшчасныя вязні вымушаны былі працаваць, бо падганялі эсдоўцы палкамі, гумавымі дубінкамі, прыкладамі вінтовак, нацкоўваннем сабакамі. Адны вязні паміралі ў голадзе, пакутах, хваробах, іншых праз пэўны час расстрэльвалі групамі па 12, 20, 200 чалавек.

Набліжаўся фронт. Усё бліжэй і бліжэй чуліся ўзрывы савецкіх снарадаў. 27 чэрвеня 1944 года ўначы быў моцны налёт савецкай авіяцыі на горад Баранавічы. Цёмна-сіняе летняе неба праразалі чырвоныя ракеты. Яно гуло ад матораў савецкіх бамбавозаў.

Намеснік каменданта лагеру эсдовец Сянкевіч Леанід даў каманду пазавешваць вокны барака мяшкамі.

Вязні захваляваліся і зашумелі.

— Што рабіць? Што рабіць? — У роспачы пыталіся вязні адзін у аднаго.

Я ўбачыў праз дзірку ў мяшку, як да Сянкевіча падыйшоў камендант Калько, якому ён далажыў:

— Цо робіць, пане лейтэнанце? Оні шумён! (Каманда ў лагеры вялася на польскай мове).

І Калько адказаў:

— Не веш, цо робіць? Жуцай гранат!

У бараку сціхлі, і Сянкевіч з Кальком нас не ўзарвалі.

Назаўтра 28 чэрвеня 1944 года, пасля бяссоннай ночы, прыйшоў Калько з іншымі катамі і выгнаў нас на панадворак. Ён ганяў нас то ў барак, то на панадворак, то зноў у барак, то зноў на панадворак.

— Людзі спяшаліся хутчэй убегчы ў барак, каб пазбегнуць udараў, якія наносіў Калько і яго памочнікі-эсдоўцы. Аднаму вязню пры такой таўкатні зламалі руку. Наглядчыкі загадвалі называць сябе камендантамі, а Калько лічыўся галоўным. Нам не далі нават вады. Сярод выгнаных вязняў мы не далічыліся ў час праверкі 400 нашых таварышаў — іх расстралялі ўначы.

Машына за машынай прыбывалі новыя «папаўненні» ў наш лагер з Баранавіцкай і іншых турмаў. Паміж іх я сустрэў свайго дваюраднага брата Васіля Канстанцінавіча Якімовіча з вёскі Дзямідавічы, Клецкага раёна. Яго расстралялі праз дзве гадзіны пасля прыбыцця ў лагер.





# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

Што хто сказаў?

ДОМНА ІВАЦІК
Ахрымы, Гайнаўскі павет,
Год 65, працуе на гаспадарцы.
Прачытала:
*«Курган»* Я. Купалы
*«У палескай глушы»* Я. Коласа
*«Раскіданае гняздо»* Я. Купалы.

«Кніжкі вельмі падабаюцца. Аўтары ведалі душу селяніна і, як у люстры, адбілі яго жыццё, жыццё здзекаў багатых над народам. Жыццё, якое я яшчэ застала і памятаю той час — цяжкіх прыгнётаў».

ВЕРАНІКА ЛЕАНЮК
Бельск, Беларускі ліцэй,
Год 17, вучаніца.
Прачытала:
*«Сіні ранак»* А. Пысіна
*«Раскіданае гняздо»* Я. Купалы
*«Майская навальніца»* М. Даніленка.

«Так, творы падабаліся. З усіх іх у простых словах пазнала я лепш жыццё. Пераважна вершы Пысіна — кароткія, а столькі задумы ў іх, радасці нейкай».

ПАРАСКЕВА ТАРАНТА
Шэрні, Бельскі павет,
Год 35, на гаспадарцы.
Прачытала:
*«Нарач»* М. Танка
*«У дрымучых лясах»* З. Бядулі
*«Збор твораў»* К. Чорнага.

« Беларускія кніжкі мне наогул падабаюцца. Асабліва люблю кніжкі, якія расказваюць аб цяжкасцях вайны і такія, у якіх апісваецца Беларусь».

ВАСІЛЬ ТАРАНТА
Шэрні, Бельскі павет.
Год 44, мужык (так напісана ў арыгінале, так і падаю).
Прачытаў:
*«Новая зямля»* Я. Коласа
*«Фельетоны»* Дзядзькі Левана
*«Лявон Бушмар»* К. Чорнага.

«Мне падабаюцца ўсе беларускія кніжкі. Таму перад усім, што пісаны яны на маёй роднай мове. З гэтых твораў найбольш падабаліся мне фельетоны Левана, таму што закрануты ў іх актуальныя справы нашага жыцця».

Старшыня Грамадскай рады ў Орлі гаворыць: — Ворля запісалася да конкурсу на найчысцейшую вёску. Конкурс закончыцца на пачатку восені. Укладзена ўжо 700 метраў тратуара, яшчэ будзе ўкладзена 800 м.

Так і закончылася наша гутарка аб чысціні на размове аб тратуарах. Пачалі мы гаварыць аб другіх справах. Гэта значыць, пра «бажніцу», аб якой гаворыцца і пішацца мо гадоў дзесяць, калі не больш...

— Дакументацыя на рамонт «бажніцы» ўжо даўно зроблена, — сказаў старшыня.

— Каля двух год таму назад, — пацвердзіў сакратар Грамадскай рады.

— Ну, і што? — запытаў я.

— Нічога больш не ведаем, — адказаў старшыня. — Вы ляпей папытайце ў гэтай справе Паўлючука ў Ваяводскай радзе. Ён усё павінен ведаць...

Так я і зрабіў. Зайшоў да Ваяводскай рады і давай пытаць пра Паўлючука. — Няма Паўлючука, — сказалі. — Паўлючук у водпуску... Пані Лебядзінская заступае яго.

— Вы ў справе сінагогі ў Орлі? —




спытала Лебядзінская. — Арлянская сінагога — вельмі цэнны архітэктурны аб'ект, у ім наглядаюцца яшчэ рысы класічнага стылю...

— Ну, так, — перабіў я даволі грубіянска ўсё-такі. — А што з рамонтам?

— У гэтай пяцігодцы сінагога ў Орлі напэўна будзе адрамантавана, нават у плане фігуруе яна. Кіно ў ёй не будзе, бо Ваяводскае праўленне кінематаграфіі дайшло да вываду, што гэта сінагога непрыдатная да абсталявання ў ёй кінотэатра. Во, Бельскі павятовы аддзел культуры мог бы падумаць над стварэннем у гэтым старажытным аб'екце нейкага цэнтра культуры.

— Пагаворым у Бельску, — сказаў я.

— Такім чынам Бельск мог бы даплаціць да рамонту, — выяснілі мне істоту справы.

— Разумею, — сказаў я, разумеючы, у чым напраўду справа.

— Цэнтраля «насенная» цікавіцца сінагогай у Орлі, — паведаміла мне п. Лебядзінская. — Але цяжка мне выясніць што-небудзь дакладней.

— Я папытаю ў цэнтралі, — сказаў я дагадным голасам.

Папытаў. Не, цэнтраля не цікавіцца.

— Можа аддзел нашай цэнтралі ў Бельску цікавіцца, — сказаў мне голас з цэнтралі. — Пазваніце ў той наш аддзел у Бельску на нумар 161 і пагаварыце з гаспадарчым кіраўніком...

У Бельску тлумачылі мне, што ўсё ж такі найляпей даведаюся аб усім у Орлі...

(С.Я.)

Рана ў горле была маленькая, і з яе сачылася кроў. Пашкоджанне патылічнай часткі чарапной каробкі, аднак, наўрад ці можна перабольшыць. Яно выклікала вялікі крывацёк, які пачаўся на Элм-стрыт, працягваўся на ўсім працягу шляху і тут, пакуль яго везлі па калідоры, і не спыніўся да гэтага часу. Можна было меркаваць, што да гэтага моманту Кенедзі сыдзе крывёю, але яго выдатнае сэрца працягвала падаваць кроў.

Першы ўрач, які прыйшоў, Чарльз Карыка, дваццаці з лішнім гадоў, што працуе ў шпіталі другі год, хутка агледзеў прэзідэнта. Не было ні пульса, ні крывяного ціску. Тым не менш ён яшчэ не быў канчаткова мёртвы, яго цела яшчэ рабіла перыядычна канвульсіўныя рухі, і час ад часу можна было пачуць біццё сэрца. Карыка пачаў ужываць рэанімацыю, увёў трубку праз рот, спрабуючы прачысціць дыхальныя шляхі. Лакціраваны раствор Рынджэра — відазменены фізіялагічны раствор — быў уведзены ў правую нагу з дапамогай катэтэра. Паспешна, прыглушаным шэптам урач запытаўся пра групу крыві. Медыцынская сястра нечакана гучна запытала ў Хіла і Келермана: «Якая група крыві ў прэзідэнта?» Клінт палез за кашальком. Рой сказаў: «Нулявая, рэзус дадатны». Але паколькі не было ўпэўненасці ў дакладнасці гэтых звестак, прэзідэнту ўвялі кроў нулявой групы з адмоўным рэзусам, таму што гэта група не дае ніякай рэакцыі, незалежна ад групы крыві хворага. Між тым ля каталкі сабралася 14 урачоў. Празмерна шмат; плошча палаты ледзь у два разы перавышала плошчу асабістага ваннага пакоя Кенедзі на другім паверсе яго рэзідэнцыі. Абсалютна неабходныя былі толькі тры ўрачы: Малькальм Перы, 34-гадовы хірург, які толькі што прыбег з бальнічнага кафетэрыя на змену маладому Карыка; Бэрклі, таму што ён ведаў гісторыю хваробы пацыента, вёз з сабою ў чорным чамаданчыку яго спецыяльныя лекі і ведаў правільныя дазіроўкі, і Марыон Т. Джэнкінс, галоўны анестэзіёлаг шпіталя.

Зрабіўшы надрэз у горле прэзідэнта пад самай ранай у міжсценні, Мак Перы пачаў пяцімінутную трахеатэмію — «рот у горле». Тым часам трубка, уведзеная ў рот Кенедзі, была злучана з рэспіратарам у надзеі аднавіць дыханне.

У 1 гадзіну дня хірург Кемп Кларк сказаў прыгнечана: «Занадта позна, Мак».

Доўгія рукі Перы сціснуліся ў адчаі. Ён павольна падняў іх ад ненатуральна белых грудзей Кенедзі, выйшаў нягледзячы з пакоя і паваліўся на крэсла, ўставіўшыся ў прастору і абыякава грызучы пазногаць мізінца. Урач, які стаяў у галаве каталкі, працягнуў руку і нацягнуў прасціну на твар прэзідэнта. Кларк павярнуўся да Жаклін Кенедзі і сказаў: «Ваш муж паранен смяротна». Яе губы бязгучна шавяльнуліся: «Я ведаю».

(Працяг будзе)

# У Дыдулях на дзяржаўнай зямлі

ПГР у Дыдулях заснаваны ў 1964 годзе. Стаялі там пустыя будынкі пасля распаўшайся ў 1957 годзе спулдзельні прадукцыйнай. Трывалыя, аблічаныя хіба на сто год. Было тады за што зачапіцца.

Дырэктар дыдулеўскага ПГР-у, **Чэслаў Залеўскі** на ПГР-аўскай рабоце вырас і з'еў зубы. За ім дваццаць год стажу. У Дыдулях ад першых дзён. Глядзіць аптымістычна ў будучыню дыдулеўскага ПГР-у.

— Да 1970 года, — кажа, — маем намер ліквідаваць затраты і тады ўсім пакажам, як трэба гаспадарыць! Ужо зараз, пасля трох гадоў нашага гаспадарання, маем лепшыя ўраджаі ад аднаасобнікаў. У мінулым годзе, для прыкладу, было ў нас 17,5 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара. У гэтым годзе будзе толькі ж сама. А ў тутэйшых сялян на тры-чатыры цэнтнеры менш. Мы ў сябе не шкадуем штучных угнаенняў. Зараз на кожны гектар выпадае ў нас па 150 кілаграмаў хімічнага ўгнаення.



**На пэгээраўскім панадворку дзеці маюць розныя прылады для гульняў. Незадоўга будзе тут дзіцячы сад.**



**Дырэктар дыдулеўскага ПГР-у Чэслаў Залеўскі вырас на ПГР-аўскай рабоце. За ім 20 год стажу ў розных ПГР-ах.**

Незадоўга дойдзе да 200 кілаграмаў. Але пакуль што не хапае нам людзей. Вось сёння — першага жніўня, а ў мяне яшчэ шмат жыта і пшаніцы не скошанай. Наш ПГР запланаваны на 30 сем'яў, а ў мяне зараз усяго ледзь 7 рабочых, ды ў тым ліку 2 абаровых і 5 трактарыстаў. На мясцовых жыхараў вёсак не магу разлічваць. У іх уласныя крыніцы даходу. Ткуць саламяныя дарожкі і гэта дае ім па некалькі тысяч злотых у месяц. У мяне заработкі таксама нядрэнныя. Трактарысты атрымоўваюць па 2000 — 3000 зл., абаровыя — 1800—2500 зл., палявыя рабочыя 1200—1800 злотых. Усе маюць дармовыя кватэры і бясплатнае малако. Могуць трымаць па 2 кормнікі і 30 штук курэй. Будуем кватэры. Вунь бачыце гэты белы домік. Ён аблічаны на 4 сям'і. Такіх домікаў будзе 8. З вадой з кранаў і з ваннымі пакоямі. Хай толькі прыязджаюць людзі!

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**У Дыдулях будуюць кватэры для рабочых. Гэткіх чатырохсямейных домікаў будзе восем.**

# ВЯСКОВЫЯ ДЗЯЦІНЦЫ

Статыстыка пажарнікаў паказвае, што прычынай многіх пажараў у вёсках з'яўляюцца дзеці, якія астаюцца без апекі. Таму вельмі важна, каб у час вялікага накаплення палявых работ дзеці знайшлі добрую апеку. Гэта магчыма ў дзяцінцах, хаця б сезонных.

Вясковых сезонных дзяцінцаў у мінулым годзе было на Беласточчыне 292. У іх знаходзілася звыш 9 тысяч дзяцей. У гэтым годзе пад пастаяннай апекай у 320-ці дзяцінцах знаходзіцца ўжо звыш 10 тысяч дзяцей.

Вясковыя дзяцінцы абсталёўваюць Таварыства сяброў дзяцей, гурткі вясковых гаспадынь — у супрацоўніцтве з аддзеламі асветы. Добра было б, каб гэтыя арганізацыі прадоўжылі дзейнасць вясковых дзяцінцаў на перыяд капання бульбы. Тады таксама ў гаспадароў няма каму займацца дзяцьмі, а пагроза пажару яшчэ больш небяспечная, бо ўсё збожжа звезена ўжо ў клуні.

**Ірэна Селяпіцкая**

# КІМ КАЛІ АДКРЫТЫ МАЦЕРЫКІ?

Старажытныя культурныя дзяржавы і народы (асірыйцы, вавіланяне, егіпцяне, грэкі, армяне і інш.), якія існавалі больш чым 400—500 г.г. назад, жылі на стыку Азіі, Еўропы і Афрыкі. Яны пасяліліся ў нізоўях рэк Тыгра і Еўфрата (Месапатамія), на тэрыторыі цяперашняга Егіпта, займалі значную частку Пярэдняй Азіі, а таксама паўднёвыя паўастравы Еўропы.

Ад гэтага цэнтра старажытнай цывілізацыі на ўсход знаходзілася Азія, а на захад — Еўропа. Усход па-асірыйску называўся «асу», а захад — «эрэб». Адсюль, відавочна, і пайшлі назвы — Еўропа і Азія — гэтых старажытнавядомых частак Свету.

Цікава адзначыць, што на першай з карт, якая паявілася 3800 гадоў да н.э. і была намалявана на глінянай табліцы, паказвалася паўночная частка Месапатаміі.

Фінікіяне ў VII—VI вв. да н.э. абышлі на суднах вакол Афрыкі, а ў 550—500 г.г. да н.э. пабывалі на Брытанскіх астравах.

Што датычыць назвы Афрыкі, то хутчэй за ўсё, яна паходзіць ад назвы аднаго з плямён, якое жыло на поўначы гэтага мацерыка — афарыгаў. Існуюць і іншыя меркаванні.

У глыбокай старажытнасці ў вучоных была думка аб існаванні невядомага паўднёвага мацерыка. Ужо на карце Пталамея ў 2-м стагоддзі да н.э. была паказана вялізная зямля ў паўднёвым паўшар'і, якая даходзіла да полюса і называлася «зямлёй паўднёвай, невядомай». Так гэта назва і замацавалася за Аўстраліяй, якая была адкрыта ў 1606 годзе галандцам В. Янсзонам і доўгі час лічылася самым паўднёвым мацерыком.

У 1606 годзе В. Янсзон пабываў у заліве Карпентарыя, а праз некалькі месяцаў пасля яго Л. Торэс прайшоў пралівам, названым потым яго імем. У 1642—1644 г.г. А. Я. Тасман з поўдня абышоў гэты мацярык. Затым Аўстралію наведалі многія падарожнікі і сярод іх Міклуха-Маклай, вядомы рускі географ.

Аўстралія ў якасці самастойнага мацерыка паказана на карце Г. Фостэра ў 1783 годзе.

Амерыка (Паўночная і Паўднёвая) адкрыты К. Калумбам у 1492—1504 гадах.

Назву гэтай частцы свету даў картограф Вальдземюлер у 1507 годзе ў гонар фларэнтыйца Амерыга Веспучы, упершыню выказаўшага меркаванне, што зямля, адкрытая Калумбам, з'яўляецца новай часткай свету.

Антарктыда, апошні з мацерыкоў і частак свету, на якія дзеліцца суша зямнога шара, адкрыта ў 1820 годзе рускімі маракамі Ф. Белінсгаузенам і М. Лазаравым. Яны падышлі да яе берагоў у раёне вострава Пятра і зямлі Аляксандра на двух невялікіх шлюпах «Мірны» і «Усход» (руская антарктычная экспедыцыя 1819—1821 г.г.).

Назву гэты мацярык атрымаў ад двух лацінскіх слоў: анці — супраць і аркцікас — паўночны, г.зн., які ляжыць супраць Афрыкі.

Усяго на Зямлі, такім чынам, шэсць мацерыкоў (Аўстралія, Афрыка, Паўночная Амерыка, Паўднёвая Амерыка, Еўразія і Антарктыда) і шэсць частак свету (Аўстралія, Афрыка, Амерыка, Еўропа, Азія і Антарктыда).


Аўстраліец з бумерангам.


Пуэрта Рыка.

## Выбух дапамагае хлеbabробу

Так, выбух — гэты даўні слуга вайны, забойца і разбуральнік, — у нашы дні ахвотна набывае мірныя прафесіі. Умела падрыхтаваныя выбухі перакрываюць рэкі, прабіваюць тунелі ў скалах. А нядаўна выбух прыйшоў на дапамогу хлеbabробу, ён навучыўся раскідваць угнаенні, ды яшчэ арганічныя.

У адходах цукровай вытворчасці ёсць усе рэчывы, неабходныя для раслін, — фосфар, калій, азот. Але паспрабуйце ўнесці ў глебу густую ліпкую масу! Вырашылі звярнуцца за дапамогай да спецыялістаў-падрыўнікоў.

Дослед быў праведзены на эксперыментальным полі ў адной з гаспадарак Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Бурты «салодкіх адходаў» былі раскладзены ў асобным парадку на адлегласці 30 метраў ад аднаго. На падрыў кожных дзвюх з палавінай тон масы спатрэбілася ўсяго два 700-грамовыя зарады. Некалькі мінут падрыхтоўкі, грукочуць выбухі — і які вынік! Ім застаўся б задаволены нават самы строгі аграном. Уся плошча вялікага поля была раўнамерна пакрыта патрэбным па таўшчыні слоем раскіданай масы.

Спецыялісты падлічылі, што гэта спосаб унясення «салодкіх угнаенняў» у чатыры-пяць разоў танней за ўсе іншыя.




### БАЦЬКА І СЫН

Ісаеў ужо два дні прыходзіў на сустрэчу і ў касцёл і ў рэстаран «Французскага» атэля, але сувязі так і не атрымаў. Ён, вядома, не ведаў і не мог ведаць аб тым, што яго кантактуюць не з разведчыкам падобнага яму класа, але з працаўніком франтавой разведкі. Як і любы чалавек, разведчык не можа ведаць усяго, але ў адрозненне ад усіх іншых людзей ён абавязаны рабіць допуск у сваіх разважаннях — допуск, які граніччыць з жульвернаўскай фантазіяй.

Таму, убачыўшы за сабою хвост пазамінулай ноччу — хвост дзіўны — усяго адзін чалавек, а не група, Ісаеў спыніўся на дзвюх дапушчальных версіях. Першая версія: Шверар з чацвёртага аддзела гестапа вырашыў праявіць руплівасць і прымацаваць да яго целаахоўніка. Гэта, зразумела, неразумна, але ў Шверара гэтага хода можна было спадзявацца. Іншая версія: на сувязь яму далі разведчыка яшчэ малавопытнага. Ісаеў дапускаў такую магчымасць, што на сувязь да яго прыдзе малады, малавопытны чалавек з блізкай, тактычнай разведкі, таму што заданне пастаўленае перад ім людзьмі з Генштаба, — вельмі сур'ёзнае заданне, звязанае з доследамі Вернера фон Браўна, які апошнім часам даслоўна закідваў Лондан сваімі «ФАУ». Гэтае заданне не магло не быць вырашаным у кантакце з франтавой разведкай, паколькі другая фаза задуманай аперацыі павінна вырашацца з дапамогай мясцовага падполля і дэсантнікаў з найбліжшых ад лініі фронта дывізій.

Ноччу, вярнуўшыся да сябе ў атэль, Ісаеў улез пад пярыну і ўпершыню задумаўся не над сваімі паступкамі, а над аналізам сваіх паступкаў. Калі толькі ён укараніўся ў апарат гітлераўскай службы бяспекі, яму з вялікай цяжкасцю ўдавалася быць знешне спакойным. Ён быў заўсёды як нацягнутая вяроўка: дакраніся толькі вострым нажом, сама лопне. Цяпер, пасля дваццаці год, Ісаеў, як ён сам акрэсліў сябе, пакрыўся акцёрскімі мазалямі ўдач. Часам яму было страшна: ён пасля паўгадзіннага знаёмства ўсё ведаў аб тым чалавеку, якога толькі што ўбачыў. Аднойчы ён зайшоў да прадказальніка будучыні, які славіўся сваімі варажэннямі. Гэта было ў Берліне. Прадказацель спытаў, як пан оберштурмбанфюрэр СС хоча, каб яму варажыць: картачныя лабірынты ці адна толькі рука.

— Пачнем з рукі, — сказаў Ісаеў. — Вам патрэбна левая?

— Вядома, — адказаў прадказацель, — абавязкова левая.

Ён доўга гладзіў руку Ісаева, дакрануўся да ўзгоркаў і ліній яго далоні, блізка разглядаў яе, заміраў; потым, закрыўшы вочы, зноў гладзіў, а потым пачаў гаварыць:

— Вы прашлі складанае, поўнае шляхетнасці і барацьбы жыццё салдата ідэі. У вас было цяжкае дзяцінства. Вы бачылі шмат няшчасця, вы самі прашлі праз няшчасце. Вас выратавала ваша воля. Вы вельмі валявы чалавек, але ваша валявое імкненне базуецца на мяккім сэрцы. Вы вельмі добры. Гэта ваша затоеная боль, гэта пытанне, на якое вам яшчэ трэба адказаць. Лінія вашага розуму, якая ў большасці людзей спадарожнічае зусім аўтаномна лініі жыцця, у вас злілася разам пасля нейкага шоку, які вы перажылі. Хутчэй за ўсё, гэта быў шок звязаны з барацьбой, з вашай унутранай барацьбой супраць агульнага зла.

«Божа ты мой, як спрытна ён хлусіць, і як гэта павінна падабацца нацысцкім дзеячам! Ён коўзае па зрэзу агульпартыйных біяграфій людзей у чорных формах. Бедны, што б ён гаварыў мне, калі б я прышоў сюды ў цывільным, думаў Ісаеў, аглядаючы пакой, дзе яны цяпер сядзелі. — Трэба пастрашыць гэтага правідцу».

— Дзякую, — сказаў Ісаеў. — Пра будучыню не трэба. Цяпер хочаце, я паваражу вам.

— О, гэта цікава!

— Дайце мне вашу левую руку.

Ісаеў бегла паглядзеў на яго далонь, потым доўга глядзеў у вочы прадказніку, а потым пачаў гаварыць:

— У дзяцінстве вы шмат хварэлі. Адзін раз вы былі пры смерці. Вас выратаваў бацька. Ён выняньчыў вас. Памойму, гэта быў дыфтэрыт.

Прадказнік зварухнуўся. Ісаеў, быццам не заўважыўшы гэтага, працягваў:

— У школе вы вельмі дрэнна вучыліся, вы нават не закончылі і доўгі час былі на фізічнай працы. Жанчына, якую вы любілі, нядаўна пакінула вас, і вы ўсю сваю нерастрачаную любоў перанеслі на жывёлу. Каля года вы вучыліся ва ўніверсітэце. У гэты час вы галадалі, а потым разбагацеўшы, вы сур'ёзна захварэлі. Найбольш баіцеся вашай шчытападобнай залозы. Я не раю вам рабіць тую аперацыю, якую вам ужо прапанавалі або запрапануюць. І не чаруйцеся з нагоды фармальнай логікі і матэматычнай псіхалогіі. Вы не ва ўсім чысты — унутрана, вельмі ўнутрана перад ідэямі нашай дзяржавы. Або вы чалавек нячыстай крыві і скрываеце гэта, або ў вас у канцлагеры адзін з вашых шматлікіх крэўных, або вы жылі з яўрэйкай.

— Гэта не гаданне, — сказаў бездапаможна ўсміхнуўшыся прадказнік. — Проста вы ведаеце маю анкету, якую я запоўніў у паліцайпрэзідыуме ў мінулым тыдні.

Тады ўпершыню Ісаеву стала па-сапраўднаму страшна, таму што, зразумела, ніякай анкеты гэтага чалавека ён не чытаў: ён проста чытаў яго вочы, твар, рукі, залысіны, бляск выпуклых вачэй, пыл на буфеце і кніжных паліцах, фатаграфію жанчыны на сцяне, рэакцыю на яго, ісаеўскія першыя словы — словам, на той велізарны лік акружаючых кожнага чалавека рыс, крэсачак, слядоў, сінякоў, манер, усяго таго, што дазваляе пры неабходным допушчэнні смеласці зрабіцца прарокам.

# ТРЫБУНА чытачоў

## НАШЫ ЗЕМЛЯКІ



Кастусь Цялушэцкі (на здымку) нядаўна вярнуўся з арміі. Там, дзякуючы рацыянальнаму харчаванню і сістэматычным трэніроўкам, дайшоў да высокай фізічнай спраўнасці. Ён лёгка падносіць штангу вагой ад 100 да 120 кг. У канцы сваёй службы на фізкультурных спаборніцтвах ён выйграваў нават прызы. Кастусь Цялушэцкі з Новага Ляўкова здабыў у арміі таксама права вадзіць матацыкл і грузавыя машыны. У час яго вайсковай службы бацькі атрымоўвалі пахвальныя лісты ад яго камандзіраў. (яц)

## ГАЙНАЎСКІЯ ВОДНЫЯ СУПОЛКІ

Гайнаўскі павет налічвае 21 водную суполку. На Гайнаўшчыне было многа лугоў і сенажацяў, якія патрабавалі меліярацыйных равоў. Каб меліярацыйныя равы выконвалі неабходную ролю, трэба каб даглядала іх добрая рука чалавека.

У гайнаўскім ПЗВС (Павятовы звёнзэк воднай суполкі) працуе 36 пастаянных рабочых, якія кансервуюць равы і маюць безупынны нагляд над імі. Да таго яшчэ ёсць 70 сезонных рабочых пры меліярацыйных равах. Уладзімір Колнер, які ўзначальвае гайнаўскі ПЗВС, мне сказаў, што сяляне нашага павета зразумелі ролю водных суполак. Можна пахваліць водную суполку ў Лозаве, якая добра дбае пра сенажаці.

**«Ярош»**

## ВЯСЁЛЫЯ ВЕЧАРЫНКІ

Нараўская чыгуначная станцыя. Некалькі мураваных дамоў, якія стаяць паабапал чыгункі. Гэта месца забітае дошкамі ад свету. Але зараз справа зусім змянілася. Тут пачала збірацца вясковая моладзь з усіх навакольных вёсак. У пустой і прасторнай хаце пасяліліся дзве сем'і цыганоў, спрытных музыкантаў. Кожны вечар тут адбываецца бясплатная, прыемная танцавальная вечарына. Зараз пачалі ўсе паважаць чыгуначную станцыю і прыязджаць на забаву. «Чарот»




Дарагое Сэрцайка!

Мне 22 гады. Працую на гаспадарцы, а мой муж апрача гаспадаркі даязджае яшчэ да працы ў горад. Ужо 3 гады як мы пажаніліся. Муж мой вельмі любіць малыя дзеці і хацеў бы мець свае дзеці. Аднак я не магу мець дзяцей, хоць не ведаю чаму, бо маю добрае здароўе, добра выглядаю і ніколі не хварэю. Апошнім часам муж мой (быў падпіты) сказаў мне, што пакіне мяне, бо што я за жанчына, калі не магу мець дзяцей. Я кахаю мужа і не ведаю, як бы гэта ўсё перанесла. Што рабіць, Сэрцайка, каб муж не пакінуў мяне. Парай.

Оля
З Гайнаўскага павета

Дарагая Оля!

Не мець дзяцей у сям'і, гэта сапраўды няшчасце. Бо мала ёсць людзей, якія пажаніўшыся не хочуць мець дзяцей. У большасці такіх сем'яў муж цэлую адказнасць звальвае на жонку, як, напрыклад, і ў тваім выпадку. У многіх аднак выпадках бывае, што іменна прычынай няплоднасці бывае муж. Таму раю табе, Оля, звярнуцца разам з мужам да лекара гінеколага, які вас праверыць і сцвердзіць, хто з вас павінен лячыцца. У большасці выпадкаў лячэнне ў гінеколага канчаецца эфектам. Пастарайся толькі як найхутчэй пайсці да лекара.

Жадаю поспехаў
Сэрцайка

## АРЭШКАЎСКАЯ СВЯТЛІЦА

У Арэшкаве, адной з вёсак Гайнаўскага павета, ёсць святліца, у якой змяшчаецца кіно і тэлевізар. Калі тэлевізар закупіў арэшкаўскі сельскагаспадарчы гурток, людзі ішлі ў святліцу і аглядалі з зацікаўленнем польскую і савецкую праграмы. І так было да месяца чэрвеня.

У чэрвені сапсаваўся тэлевізар, які да гэтага часу не наладжаны. Арэшкаўскія людзі пасля цяжкай работы ў полі прыходзяць у клуб-кавярню правесці вечар, прыбывае таксама многа моладзі, якая не мае ніякай разрыўкі. Старэйшыя і малодшыя вечарамі граюць у карты, у той час, калі маглі б правесці культурна час, аглядаючы тэлевізійную праграму, або чытаючы прэсу. Толькі ў святліцу газеты прыходзяць не ў той дзень, калі трэба. Старэйшыя людзі і светліцовая, якой з'яўляецца Валя Галёнка, інтэрвеніравалі ў Грамадскую раду ў Арэшкава ў справе рамонту тэлевізара, але без выніку.

Апрача таго 27 чэрвеня адкрылі кіно, але не высвятлялі яшчэ фільмаў. Да гэтага часу прыязджала кіно з Дубіч Царкоўных. Калі адкрылі арэшкаўскае кіно, з Дубіч адказалі.

Святліца ў Арэшкаве патрабуе рамонту. Да гэтай пары зрабілі толькі фундамент. Дах не рамантуюць. Як падае дождж, у святліцы поўна вады. Святліца занядбана, і людзі не могуць прыемна правесці свабоднага часу.

**Жыхары Арэшкава**

## АКТЫЎНАЯ КАМІСІЯ



Адной з найбольш актыўных камісій ППРН у Бельску з'яўляецца камісія камунікацыі. У час сваёй кадэнцыі яна ўнесла шмат прапаноў. З яе ініцыятывы добра абсталявана парк дарожных машын і адкрыта магазін «Матазбыт». Члены камісіі актыўна дзейнічаюць пры кантролі дарожных работ.

Тэкст і фота П. Зінкевіч

## СУПОЛЬНЫЯ НАМАГАННІ ДАЮЦЬ ЖАДАНЫЯ ВЫНІКІ

План кантрактацыі збожжа на 1968 год у трамадзе Ласінка (Гайнаўскі павет) складаў разам 200 га. Рэалізаваць яго пачалі ў маі г.г. Нават спалучылі з кантрактацыяй рапсу. Але і гэта не давала жаданых вынікаў. Толькі супольная акцыя ПГРН, ГС Нарва і аддзела скупу ППРН у Гайнаўцы дала эфект. Напрыклад, 30 ліпеня г.г. супольны выезд працаўнікоў вышэй указаных устаноў дазволіў падпісаць кантрактацыйныя абавязацельствы на 34,30 га збожжа. Цяпер план выкананы ў 96%, а ў найбліжэйшы час будзе перавыкананы.

Звыш 100% плану выканалі сяляне Волькі, Барысаўкі, Рэпіска, Васількова і інш. Недацэньваюць ролю кантрактацыі сяляне Крыўца, дзе на 70 гаспадарак падпісана абавязацельстваў толькі на 3,50 га.

Перадавікі кантрактацыі ў тутэйшай ваколіцы з'яўляюцца Аляксей Давідзюк з Трывежы, Павел Семянюк з Рэпіска, Мікалай Ходак з Ласінкі, Іван Раманюк з Прыбудак і Іван Спурунюк з Каменя.

Пе-С

## СТАРАННЫ КРАМАР

Аляксей Салежынскі з вёскі Вітава, Гайнаўскі павет, з'яўляецца адным са старэйшых крамараў на Гайнаўшчыне. Перад вайной ён ужо гандляваў у сваёй маленькай краме. Хоць цяжка было тады з таварамі для вёскі і дарагія яны былі, аднак старанны крамар недзе іх даставаў, і жыхары вёскі кожны раз маглі купіць у Салежынскага цукар, соль, ці нешта з абутку.

Калі настала народная ўлада, жыхары Вітава зноў выбралі крамарам Салежынскага, бо ведалі, што ён іх не падвядзе. Крама знаходзілася ў цёмным памяшканні, аднак розных тавараў тут ніколі не бракавала.

Цяпер у Вітаве стаіць прыгожая, вялікая крама — ініцыятыва і труд вітаўцаў. Заўсёды поўна тут людзей, і старанны, ветлівы крамар з усмешкай кожнага вітае.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ЧЫН У БЕЛАВЕЖЫ

30 ліпеня партыйная арганізацыя Грамадскай рады нарадовай у Белавежы арганізавала чын, прысвечаны 50-цігоддзю Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі і 23-цяй гадавіне ліпеньскага маніфеста. 27 асоб развозілі машынамі пясок і папраўлялі вуліцу Стачок. Між іншым, прывезена таксама пясок пад уваход у беларускі рэгіянальны музей. Дзякуючы гэтаму месца каля нашага музея папрыгажэла.

Ул. Гацута

---

Таму яшчэ на самым пачатку, каб выратаваць аднаго нелегала-чакіста ў Парыжы, Ісаеў, выслухаўшы белага разведчыка, маладога гарачага графа Граеўскага, калі той, захоплены, прыбег да яго з паведамленнем, што чырвоны абложаны кампрамітуючымі матэрыяламі і што перавербаваць яго — справа дня, глупства і цьфу, Ісаеў тады сказаў:

— Лапачка мая, граф, гэта не вы яго перавербуеце, а ён вас. Кампрамітуючымі матэрыяламі таксама, як і грашыма, па-сапраўднаму не вярбуюць, а калі і вярбуюць, то крэтынаў, абсалютна непатрэбных шануючай сябе разведцы.

— А як жа, па-вашаму, трэба вербаваць? Як і чым? — здзівіўся граф.

— Розумам, — адказаў Ісаеў. — Розумам, ідэяй і воляй. Чалавек — гэта вялікая з'ява, і разгледжваць яго трэба ў цэлым: стары — малады, прыгожы — брыдкі, таленавіты — уседлівы, бліскучы — скромны... Грошы, жанчыны, кампрамітуючыя матэрыялы — усё гэта глупства. Ісці трэба ад дабра і зла, ад катэгорый глабальных, мілы чалавек. Так што плюньце вы на гэтага чырвонага! Калі ён так да вас падставіўся, адыйдзіце ўбок. Гэта яго тонкая работа, паверце на слова...

«Заўтра мне трэба будзе прыглядзецца да хваста ўважліва, — сказаў сабе Ісаеў, — трэба мне паглядзець яму ў твар, а там відаць будзе. Не падабаецца ўсё мне гэта. Як у дрэнным дэтэктыве».

Коля ішоў па другім баку, стараючыся не трапляцца на вочы эсэсаўцу, што крочыў спераду. Той адыходзіў усё далей і далей ад цэнтра і трывога Колі расла з кожнай гадзінай.

— Дзе ж яго страляць-та? — думаў ён. — Сволач, ходзіць там, дзе гарнізон або прахадных двароў няма. Няўжо пачуў? Не павінен. Ён ні разу не аглядаўся.

Гадзін у дзве ночы, калі месяц стаў яркі, гестапавец павярнуў за вугал і прыліп да сцяны дома. Ён чуў, як яго праследавацель, намагаючыся ступаць на насках, спяшаўся за ім і перабягаў вуліцу, каб скараціць адлегласць.

— «Так. Ён водзіць мяне, — зразумеў Ісаеў. — Тут трэба для сябе ўсё высвятліць. Па-мойму, гэты тып не ад Шверара. Паглядзім у твар. Заўсёды трэба паспець паглядзець у твар таму, хто ідзе следам за табою ноччу па ціхім горадзе».

Коля на бягу пераложыў «вальтэр» з унутранай кішэні ў бакавую. Ён стараўся не дыхаць і ступаў асцярожна: «Яшчэ пачуе, гад!» Коля павярнуў за вугал і тварам у твар сутыкнуўся з афіцэрам СС. Святло месяца рабіла твар фашыста непранікальна-чорным, а яго, Колін, наадварот, асвятліла халодным, выразным святлом. Ён ад нечаканасці замёр, нават у кішэню за пісталетам не палез. Нейкую хвіліну яны стаялі непарушна: адзін — задыханы, а другі — спакойны, з чорным тварам, рукі за спіною. І раптам Коля аглох, а потым раптам зноў пачаў чуць усё навокал, таму што навокал яго па вуліцах, у неба, да месяца пакацілася слова, якое сказаў эсэсавец. Ён сказаў толькі адно ціхае, адчайна-пяшчотнае слова:

— Сын...

**(Працяг будзе)**

---

# КІНО

**ПРАГРАМА на 29.VIII.—3.IX.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Całe złoto świata" (radz.), 29 — 30. VIII. „Tyle wierności na nic„ (węgierski), 31. VIII. — 1. IX. „Wołga-Wołga" (radz.), 2 — 3. IX.

**Кляшчэлі**
„Poślubny rejs" (angl.), 29 — 30. VIII. „Trzy klucze" (jugosł.), 31. VIII — 1. IX. „Potem nastąpi cisza" (jugosł.), 2 — 3. IX.

**Дубіны**
„Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), „Troje i las" (polski), 2 — 3. IX.

**Нараўка**
„Obrońca z urzędu" (angl.), „Tak blisko nieba" (czeski), 30. VIII — 3. IX.

**Нарва**
„Popioły" (polski), I i II s. 30. VIII. — 3. IX.

**Чыжы**
„Sposób bycia" (polski), „Przygody Wernera Holta" (NRD), 30. VIII — 3. IX.

**Дубічы Царкоўныя**
„Cierpkie głogi" (polski), 29 — 30. VIII. „Długość pocałunku 90" (czeski), 31. VIII — 3. IX.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Chudy i inni" (polski), „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 30. VIII — 3. IX.

**Орля**
„Ktokolwiek wie" (polski), „Towarzysze podróży" (radz.), 30. VIII — 3. IX.

**Райск**
„Starsza pani bez godności" (franc.), „Gangster i urzędnik" (USA), 30. VIII — 3. IX.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Pałace w płomieniach" (rumuński), „Lenin w Polsce" (polski), 29. VIII — 1. IX.

**Міхалова**
„Hasło „Odwaga" (angl.), 29 — 30. VIII. „Pociąg pod specjalnym nadzorem" (czeski), 31. VIII — 1. IX. „Zejście do piekła" (polski), 2 — 3. IX.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Wszystko dla psów" (angl.), 29. VIII — 30. VIII. „Grunt to zdrowie" (franc.), 31. VIII — 1. IX. „Miejsce dla jednego" (polski), 2 — 3. IX.

**Шудзялава**
„Don Gabriel" (polski), „Tytoń" (bułgarski), 30. VIII — 3. IX.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Tygrys lubi świeże mięso" (francuski), „Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), 30. VIII — 3. IX.

**Новы Двор**
„Panie inspektorze" (jugosł.), „Trema" (USA), 2 — 3. IX.

**Ліпск**
„Strzelby Apaczów" (USA), „Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 2 — 3. IX.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.

Генадзь Кухарэнка

# ЯК МЫ СЫНА СТРЫГЛІ

Петрык — наш двухгадовы сын. Сапраўды, яго пушыстыя валасікі адраслі занадта. Гэта таму, што кожны візіт з ім у цырульню ператвараўся ў пакуты і для Петрыка, і для нас з жонкай, і для цырульніка. На хлопчыка не дзейнічалі ні ўгаворы, ні абяцанні.

— Ты ж ведаеш, як з ім..., — нясмела прамовіў я.

— А мы самі паспрабуем. Падправім ножнічкамі патыліцу, ля вушкаў, — жонка была поўная рашучасці і ўжо корпалася ў шуфлядзе.

— Петрык!

Хлопчык выкаціў на драўляным кані з выскубанай грывай і рэдкім хвастом.

— Петрык, давай будзем чык-чык, — жонка зашчоўкала ножнічкамі ў паветры.

Сын недаверліва пакасіўся на нажнічкі і ўцягнуў галаву ў плечы.

— Хлопчык, разумненькі, ён не будзе плакаць, — жонка, прымяняючы ўсю неабходную ў гэты момант тактыку і стратэгію, падкрадвалася да сынавай патыліцы. Але той скеміў, што да чаго, і пачаў хныкаць.

— Ну, чаго ж ты баішся, дурненькі, усе ж ходзяць у цырульні. І мама ходзіць і не баіцца.

Жонка здагадалася. Яна скамандавала мне апусціцца перад сынам на калені. Узяла пэйсу маіх валасоў.

— Глядзі, Петрык, тата сапраўды не баіцца.

Нажнічкі шоргнулі, і шматок маіх валасоў упаў на падлогу. Я ледзьве не вызверыўся, але тут спахапіўся. Сын глядзеў на мяне, на яго вачах здзяйсняўся подзвіг, і я натужна ўсміхнуўся. Але Петрыку адной ахвяры было мала.

— І маму, — ён утаропіў свае вачаняты на жончыну рыжую галаву.

Я ўзяў нажніцы і пстрыкнуў у жонкі над галавой.

— Ы-ы-ы, — сын нездаволена нахмурыў тварык. Ён прымаў толькі сумленную гульню. І я быў вымушаны адрэзаць у жонкі некалькі валаскоў. Пасля гэтага Петрык дазволіў дакрануцца да сваёй галавы.

— Зноў тату, — запатрабаваў сын.

— Маму!

Спачатку мы пстрыкалі нажнічкамі адзін у другога над галавой, стараючыся захапіць як мага менш валасоў. Але сын задаваў усё большы тэмп...

Праз нейкія чвэрць гадзіны, калі сынава галава нагадвала спаласаваную пракосамі сенажаць, мы глянулі адзін на другога. У мяне і цяпер у памяці дзіка акругленыя вочы жонкі. Яна хапаецца за галаву і, губляючы рыжыя камячкі ўзвітых у цырульні валасоў, бяжыць да люстэрка.






Без слоў

## ПРАДПІСАННЕ

— Вы дакладна выконвалі маё прадпісанне: тры пілюлі ў дзень і глыток каньяку для запівання?

— Дакладна, доктар. Праўда, з пілюлямі крыху адстаў, затое па каньяку ў мяне перавыкананне на цэлыя тры месяцы.

## КВЕТКІ НЕ ПРАЧНУЛІСЯ

Алёнка назбірала падвечар жоўтых нядокрапак і паставіла іх у вазачку. Раніцой прачнулася, а брацік гаворыць ёй:

— Глянь, Аленка, кветачкі твае завялі.

— Не, Лёнька, гэта яны спяць, гэта яны яшчэ не прачнуліся...

## СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

Рэдактар С. адмовіўся ўдзельнічаць у турысцкай экскурсіі «Едзем у невядомае», заявіўшы, што паездка ў невядомае не задавальняе яго, паколькі жыхарам многіх гарадоў ён вінаваты грошы.





**Часта людзі пры дапамозе слёз абмываюць люстра свайго сумлення і тады выразней бачаць сваю віну.**

✲

**Чалавек заядлы заўсёды знойдзе за што зубамі зачапіцца.**

✲

**Жыццё ёсць вялікай і цікавай кнігай мудрасці... але не для разяваў.**

✲

**Гісторыя — вялікі сметнік, у якім беспераппынна грабуцца вучоныя людзі.**

✲

**Прыгажосць і прастата таксама некаторым коле ў вочы і не падабаецца, бо людзі маюць вельмі розны смак.**




— Мама, ён просіць маёй рукі!

## Прыгоды Хаджы Насрэдзіна ВЫЖЫЎ З РОЗУМУ

Вандруючы, Насрэдзін Афандзі дагнаў у дарозе дэрвіша і старога-дэхканіна. Далей яны пайшлі разам. Вечарам на прывале, якраз перад сном, Афандзі папрасіў старога, каб ён на золку разбудзіў яго.

— Я вельмі спяшаюся, — сказаў ён.

— Абавязкова разбудзі, не забудзь.

Было цёмна яшчэ, калі стары разбудзіў Афандзі. Той хутка ўстаў, надзеў на галаву замест сваёй чалмы дэрвішскі кулях і пашкрэбаў сваёй дарогай.

Узышло сонца. Стала горача. Афандзі захацеў піць. Нахіліўся над арыкам і раптам убачыў сваё адлюстраванне ў цiхай вадзе.

— Клянуся, гэты стары з глузду з'ехаў, — усклікнуў Афандзі. — Замест мяне ён разбудзіў дэрвіша.

І заспяшаўся назад.

## КУБАМЕТР ДРОЎ

— Тата, скажы, кубаметр дроў гэта шмат ці не?

— І шмат і не. Калі як. Калі іх купляеш, дык мала, а калі пілiш ды колеш — ой шмат.

## ШАФЁР

Едзе шафёр на машыне. Адною рукою трымаецца за руль, а другою абдымае дзяўчыну.

Міліцыянер убачыў і крычыць:

— Грамадзянін шафёр, дзвюма рукамі трэба!

А шафёр яму:

— Сам ведаю, не маленькі! Але як жа я тады машынаю кіраваць буду?

## СІРАТА

— Кажуць, што розум дае маці, а не інстытут, — даводзіў адзін.

— Правільна, я ўжо даўно думаю, што ты вырас сіратою, — адказаў другі.

## У ВЕК ТРАНЗІСТАРАЎ



— Цяпер, любачка, званочкаў не носяць!

## КОЖНАМУ — СВАЁ

— Пра што ты думаеш, даведацца б жадаў! —<br>
У задуменнай Куркі Певень запытаў.<br>
— Ах, я хацела б дужай быць, як Слон,<br>
Рыкаць, як Тыгр, і смелай быць, як ён...<br>
Са злосцю Певень ёй сказаў: — Відаць,<br>
Табе б пра яйкі лепш, сяброўка, дбаць!

**Х. Зія**

## ЗБЕГ АКАЛІЧНАСЦЕЙ

Прыйшоў да адной жанчыны знаёмы ў госці. Сядзелі, размаўлялі... Раптам зазваніў тэлефон. Жанчына ўзяла трубку, пагаварыла і зноў села побач з госцем.

— Хто гэта гаварыў? — хвалюецца госць.

— Можа яшчэ якісьці «знаёмы»?

— Не! Гэта гаварыў мой муж і запэўніў, што гуляе з табою ў шахматы. Думаю, што, вярнуўшыся дадому, ён будзе выхваляцца, як удала паставіў табе мат.

**Песні па заяўках**

Па просьбе Веры з Бельскага павета змяшчаем песню п.з.

# ПЕСНЯ-СКАЗ О МАМАЕВОМ КУРГАНЕ

Слова В. Бокова — Муз. А. Пахмутовой




На Мамаевом кургане тишина,<br>
За Мамаевым курганом тишина.<br>
В том кургане похоронена война,<br>
В мирный берег тихо плещется волна.

Перед этою священной тишиной<br>
Встала женщина с поникшей головой,<br>
Что-то шепчет про себя седая мать,<br>
Все надеется сыночка увидать.

Заросли степной травой глухие рвы,<br>
Кто погиб, тот не поднимет головы,<br>
Не придет, не скажет: «Мама, я живой!<br>
Не печалься, дорогая, я с тобой!»

Вот уж вечер волгоградский настает,<br>
А старушка не уходит, сына ждет.<br>
В мирный берег тихо плещется волна,<br>
Разговаривает с матерью она.




**Аматарам красвордаў**

У Францыі выйшаў слоўнік для аматараў красфордаў. Гэта першы слоўнік такога роду на свеце. Складзены ён пры дапамозе электроннай машыны на аснове малой энцыклапедыі Ляруса. Усе словы ў ім класіфікаваны па тэмах, колькасці літар і г.д.

**Перавага жанчын**

Амерыканскі эканаміст Паркер зрабіў вывад: «Амерыканскія жанчыны трацяць на касметыку больш, чым мы трацім на вайну ў В'етнаме. Але жанчыны могуць пахваліцца сваімі перамогамі».

**Кароткая памяць**

Лорду Странгу, старшыні «буфетнай» камісіі пры англійскай палаце лордаў, трэба было вырашыць пытанне, ці варта і надалей адпускаць з буфета лордам напіткі ў крэдыт або не. Справа ў тым, што многія члены палаты забываліся размічвацца з афіцыянтамі. Зацверджана рашэнне: крэдыт адмяніць.

**Колькі людзей у Афрыцы**

Аграбіёлагі сцвярджаюць, што ў адным напарстку зямлі ёсць толькі жывых арганізмаў, колькі людзей у Афрыцы.



**Кажуць, спачатку выканай загад, а скардзіцца можаш толькі потым. А што, калі загад гучыць так: «Не скардзіцца!»?**